Сепа 60 gr. Цана 60 гр.

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

# Ніва

Тыднёвік
Г.П. Беларускага
грамадска-культурнага таварыства

№ 39 (135) БЕЛАСТОК, 28 ВЕРАСНЯ 1958 года ГОД III

# Не трэба закрываць дарогі ў будучыню

Цяпер на вёсцы шмат гаворыцца аб тым, што многа моладзі вучыцца ў гарадах. Тыя, што пазаканчвалі ўсялякія школы, маюць цяпер забяспечаны быт — будучыню ў жыцці. Не адна маці або бацька ганарацца перад знаёмымі сваім сынам — інжынерам ці дачкою-настаўніцай.

Таму вельмі цяжка зразумець тых бацькоў, якія не пускаюць сваіх дзяцей у школу — сваййму сыну або дачцы не даюць закончыць нават 7 класаў пачатковай школы. А такіх бацькоў ёсць нямала! Напрыклад, у адной толькі пачатковай школе ў Тапалянах (Беластоцкі павет) на 120 дзяцей не ходзіць у школу дзевяць! Не памагаюць тут размовы настаўнікаў з бацькамі. Не памагае дэкрэт аб абавязку ўсеагульнага навучання моладзі аб школьным узросце.

На вёсцы наглядаецца дзіўная з'ява: калі вучань не перайшоў у наступны клас, дык на другі год бацька ці маці не пасылаюць дзіцяці ў школу!

Аб лёгкадумнасці гэтых бацькоў, няма чаго і пісаць.

На беларускай вёсцы наглядаецца таксама яшчэ і іншая з'ява. Напрыклад, у пачатковую школу ў Ласінцы (Гайнаўскі павет) не ходзіць 12 дзяцей. Не толькі таму, што не перайшлі ў наступны клас. Не. Вось маленькую Любу Асташэўскую не пускаюць у школу таму, што трэба пільнаваць у хаце дзіцё, бо бацькі капаюць бульбу. — Восенню няхай пабудзе ў хаце, трэба памагаць на гаспадарцы, — кажуць яны. — А на зіму пусцім у школу, тады можа вучыцца.

Падобная з'ява і з другімі. Чаму бацькі не могуць зразумець таго, што іх дачка або сын за гэтых некалькі зімовых месяцаў не толькі не лагоняць у вучобе сваіх равеснікаў, але і наогул мала чаго навучацца. Бо школьная праграма не чакае. Калі вучань не ведае першых урокаў, то не зразумее і далейшых. Пачынае атрымліваць «двойкі» — не пераходзіць у наступны клас. У такім выпадку, пераважна, маці бяжыць да настаўніцы ці настаўніка і робіць авантуры, што нібы да яе пацехі «знарок» настаўнік «зласліва прычапляецца». Педагогу балюча слухаць такія словы.

Міжволі хочацца запытаць такіх бацькоў: Скажыце, што вам важнейшае — гаспадарка, ці свае дзеці? Для каго вы жывяцё — для гаспадаркі ці для дзяцей?

У сучасных умовах не даць дзіцяці адукацыі — хаця б 7 класаў, гэта значыць замкнуць яму дарогу да грамадскага авансу. У нашым жыцці звяртаецца вялікая ўвага на ўзровень адукацыі чалавека. Кожны чалавек павінен мець закончаных хаця б 7 класаў пачатковай школы.

С. ЯНОВІЧ

## 600.000.000



На здымку: шматмільённая дэманстрацыя працоўных сталіцы Кітая.

*1.X.1949 г. была абвешчана Кітайская Народная Рэспубліка. Ужо 9 год шасьцісотмільённы кітайскі народ у стваральнай працы будуе сваю новую, сацыялістычную будучыню. Гэта не падабаецца імперыялістам і яны намагаюцца перашкодзіць мірнаму будаўніцтву. Але вялікі Кітай не баіцца шантажыстаў. Апошнія правакацыі амерыканскіх імперыялістаў у раёне Тайвана выклікалі гнеўны адказ усяго кітайскага народа. Згуртаваны, як ніколі, ён прадэманстраваў гатоўнасць разграміць агрэсараў, утрымаць суверэнітэт і тэрытарыяльную адзінасць радзімы.*

*Народныя апалчэнцы выказваюць гатоўнасць змагацца за радзіму.*



*— Абавязкова вызвалім Тайван! — клянуцца байцы Народна - вызваленчай арміі Кітая.*

Артыкул дыскусійны

# Палепшыць працу ГП БГ-КТ

Пачатая ў апошніх нумарах «Нівы» дыскусія аб працы Галоўнага Праўлення БГ-КТ выклікана непасрэднай патрэбай змянення некаторых напрамкаў яго працы. Беларускае Таварыства арганізавалася, не маючы ніякага вопыту і вымушана было ў сувязі з тым наследваць дзейнасць таварыстваў іншых нацыянальных меншасцей у Польшчы. Таму прынятыя метады працы, апрача дзейнасці «Нівы» і некалькіх мастацкіх калектываў сёння нас ужо не задавальняюць.

Шмат новага прыносіць смелы дыскусійны артыкул Рыгора Лясуна «Ці не ў малэлі справа?» Я асабіста амаль поўнасцю з ім згодны. Планы дзейнасці Таварыства павінны ствараццa так, каб маглі актывізаваць культурна - асветнае і эканамічнае жыццё галоўнай масы беларускага насельніцтва ў Польшчы, займаючага ўсходнюю частку тэрыторыі Беласточчыны. Нельга, зразумела, у гэтым плане не прадугледжваць форм сувязі і супрацоўніцтва з беларусамі, пражываючымі ў іншых раёнах Польшчы і за яе межамі. Але гэтае супрацоўніцтва будзе мець іншы характар.

У плане Таварыства павінны выступіць такія напрамкі дзейнасці, як арганізацыйны, мастацкі, асветны, гаспадарчы і іншыя. Развіццё іх будзе залежыць ад патрэб і зацікаўленасці жыхароў.

Каб не дубляваць, або не падменьваць працу агульнадзяржаўных устаноў, трэба ўтрымоўваць з імі як наймацнейшую сувязь, паўней выкарыстоўваць іх вопыт і матэрыяльную дапамогу. Напрыклад, поўнасцю адабраю прапанову тав. Лясуна аб стварэнні прафесіянальнай аб'язной эстрады, якая вельмі патрэбна для ажыўлення культурнага жыцця вёсак. Але працу яе трэба звязаць з тэатрам імя А. Вянгеркі або ВДК. У іншым выпадку такая эстрада, адарваная ад агульнапольскага і замежнага тэатральнага жыцця, не зможа задаволіць гледачоў ні горада, ні вёскі, бо, па-першае, зробіцца неаўтарытэтнай, а, па-другое, не зможа даць лепшага ад свайго, вясковага. У сваю чаргу працаўнікі эстрады павінны служыць парадай і быць апекунамі ўсіх беларускіх самадзейных гурткоў.

Многа месца ў плане будучай дзейнасці Таварыства трэба адвесці асветнай працы на вёсцы. Моладзь, нават пасля заканчэння пачатковай школы, парывае кантакт з кнігай і адстае ад жыцця, а ўжо аб ўзроўні асветы сярод старэйшага пакалення — і не варта ўспамінаць. Асветную працу трэба пачаць ад кароткіх лекцый, выкарыстоўваючы на кожным кроку зборы сялян — сходы, кінафільм, пастаноўку і г. д. Іх зацікавяць і апошнія сусветныя навіны, і агракультура, і атамная энергія, і агульная гігіена, і спосабы кансервавання фруктаў. А, здаецца, мы ўжо маем магчымасць задаволіць іх нават настолькі разнастайную цікавасць. З беларускага асяроддзя вырасла многа выдатных спецыялістаў — інжынераў, настаўнікаў, лекараў, артыстаў, якія ахвотна перакажуць насельніцтву свае веды. А не было б цяжка кожнаму спецыялісту зрабіць па 2—3 даклады ў год. Беларускае Таварыства павінна ўтрымоўваць сувязь з ТВП — можа яно таксама выйшла б з Беластока насустрач жаданню сялян.

Урэшце, Галоўнае Праўленне павінна ўсебакова абмеркаваць пытанне ўзнікнення хоць адной сярэдняй беларускай школы ў Беластоку. І павінен быць гэта тэхнікум. Пры добрай волі асветных устаноў можна знайсці рашэнне праблемы школьнага будынка, а настаўнікаў і вучняў знойдзецца дастаткова.

В. ЮЗВЮК

 

# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку №4

## ЭПІГРАМЫ

**Паэтам**

Быў бы мо' і паэтам,
Толькі галава... не гэта.

**Пісьменніку — мемуарысту**

Ён напісаў двухтомнік мемуараў
Аб тым, як з геніям стаяў ля пісуара.

Аса



*Мікола Гайдук з Беластоцкага павета, 1933 года нараджэння. Сын селяніна. Закончыў агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове. Вучыўся ў Ленінградскім і Мінскім універсітэце. Упершыню выступіў з вершамі на старонках «Нівы». Цяпер працуе ў рэдакцыі «Нівы».*

Мікола Гайдук

## АСЕННІ МАТЫЎ

Загоны чорнымі разорамі
Жалобу сеюць па палях.
І кліча ў вырай,
кліча зорамі,
Гусям міргае Млечны шлях.

Задуманы, стаяць, без шолаху
У сіняй імгле лясы.
Гараць на гонях,
гараць ад золаку
Нязжатай грэчкі паясы.

Устае восень рана, з росамі
Віць павуцення ніць
І снуе па быльніку,
снуе босая
Да самых позніх вечарніц.

## БЕЛАВЕЖА

Падарожны!
Тут свой ход запыні,
Рукзак з пляча скінь.
Адпачынак ў цяні
Вабіць шэптам дубоў,
Песняй ціхай ялін.

Пыл чужы са ступні,
Што з далёкіх дарог
Прынёс ты, атрахні,
Ушануй пушчаны
Заімшэлы мурог.

Тут ад стомы дарог
Пах дубровы асвежыць.
Тут пасцель — сена стог
Калыханкаю — шум,
Гулкі шум Белавежы.




Ноч туманам сцелецца;
Сонны плёс ракі, —
Толькі за аселіцай
У лузе светлякі.

Быццам з неба зорнага
Хтось рукой знарок
Сярод луга чорнага
Страхнуў зоры ў змрок.

Люба Красоўская



*Люба Красоўская-Райнава, нарадзілася ў 1932 годзе ў Малынцы, Беластоцкага павета. У 1957 г. закончыла Мастацкую Акадэмію ў Сафіі (Балгарыя). Працуе ў «Ніве».*



*Пейзаж.*



*Галава.*



Антось з Лепля

## Шляхецкія госці



*Антось з Лепля (Антон Васілеўскі) пачаў пісаць яшчэ перад вайной. У беларускім перадваенным друку былі змешчаны яго першыя творы. Антось з Лепля піша прозай і вершам. Жыве цяпер на Заходніх Землях.*

У Залыччы кіпіць жыццё. Старыя і малыя шляхеткі нешта рупліва бегаюць, круцяцца, клапоцяцца, некуды збіраюцца.

Куды ж гэта? — А ў госці да Чуб-Цяпілаў. Тыдзень таму назад тыя прыслалі праз парабка паперу, у якой пісалася:

*«Вельце паважаныя і чцігоднэ паньство Лычкоўскія! Просімы абавязкова быць у нас, значыцца, у Чуб-Цяпілаў, на Усіх Святых першым днём у гасцях. Шмат хто бэндзе сабраўшысень. Бэндзе выпіўка і квашаніна, а і кілбасы, а і капуста са смятанай, а і парасёнак ў масле, а і сырнікі ў тлустасці... На астатак падамы або бліны аўсяныя з гусіным шмальцам, або кісель аўсяны з маслам, або яблыкі з... млекам.*

*Спадзяёмся, же бэндзеце напоўненыя усім усякім, а і здаволеныя бардзо вшысткім ад'едзеце ад нас, паноў Чуб-Цяпілаў, да свайго Залычча.*

*З вялікім паважаннем чакаць будзема.*

*Паноў . . . . . . . Чуб-Цяпілы.»*

Гэткае пасланне атрымалі ад «старога шляхецкага роду», дык і не дзіва, што ў паноў Лычкоўскіх кіпела ў будынку, як у катле.

Сама пані Лычкоўская, высокая, прыгожая, поўная жанчына падганяла нізкага кульгавага пана.

Сын іхні Мамерт гадоў 24-ох падганяў сястру Уршулю, прыземістую, круглую маладзіцу гадоў 25, крычучы штомінута:

—Уршуля, дзе штаны? Уршуля, падай шлейкі! Уршуля, дзе падзела панчохі ды калёшы?

Апрача гэтага ў Уршулі быў муж Стаська, худы, спрытны гарадскі чалавек (на чыгунцы нейкую службу меў). Той таксама спрыкрыўся Уршульцы, просячы хустачкі (грошай у дарогу), бо гэта было ў ейных руках.

Але пад вечар — ткі ўсё сціхла. Пані сама з Мамертам села на калёсы, у якіх буднімі днямі гной у поле вазілі, Уршуля са сваім Стаськам — на каламашцы, што ў касцёл кожнае свята ездзяць — і паехалі.

Сціхла ў Залыччы. Дзе ні дзе толькі курыца засакоча, знёсшы яйка, або пятух запяе. Сам пан Лычкоўскі сеў ля акна ў «салёне», узлажыў на нос акуляры, узяў кніжку і ўзносіў малітвы Богу за сябе і за паехаўшых у госці.

Туп... туп.. .тупа-туп... бяжыць конік з калёсамі. Туп-туп... за ім другі з каламашкаю.

Паволі то зближаюцца, то ўцякаюць ад іх прыдарожныя бярозы, мінаюць поле за полем, лужыну за лужынай, мост за мастом.

Качаюцца і ўздрыгваюць на калдобіністай дарозе павозкі, качаюцца - уздрыгваюць, хіляюцца ў бакі дрэмлючыя смачна седакі.

Туп-туп... тупа-туп... без канца адбіваецца з гасцінца.

Раптам чуюць — «гаў! гаў!» забрахалі недзе блізка сабакі. Прачнуліся седакі. Мамерт затрымаў каня, злез і нешта пачаў шукаць на дарозе — пугу страціў, едучы. Гэта здаралася з ім кожны раз, як толькі выпраўляўся ў госці, ці ў Дзісну.

Пані-матка была разумнай жанчынай. Яна з усмешкай пазірала на сына і казала:

— Можа вёрст пяць назад страціў... не варта шукаць, паедзем як-небудзь!

Мамерт адламаў алешыну і, не абламаўшы галля, узмахнуў ёю над канём.

Праз хвіліну яны звярнулі на панадворак паноў Чуб-Цяпілаў.

Сустракаць вышаў сам гаспадар, малады і смешны дзяцюк гадоў трыццаці, з вялікім падбародкам і скрыўленаю губой. Каней з павозкамі ўпарадкавалі, рэчы якія, перакуску, сеннікі і сядзенне, а і клункі паны Лычкоўскія пазабіралі з сабой у хату. Алешніну-паганялку Мамерт старанна схаваў ля плоту.

У хаце было поўна пань, паноў, дзяўчат і дзяцюкоў. Размясціўшыся былі ўсе гурткамі па кутох — старыкі сабе, старухі сабе, дзяцюкі і дзяўчаты асобна. Ціха было. Толькі шэпт і шорхат данёсся да вушэй Лычкоўскіх, калі тыя ўвайшлі з усімі вандзэлкамі ў хату.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! — загаманілі новапрыбыўшыя. Ім адказалі зараз-жа з усіх куткоў:

— На векі векуў!

Гаспадар і гаспадыня кінуліся памагаць раздзявацца. З вялікім трудом адвярцелі паню-матку з коўдраў, хустак і шнуровак. Знялі пальто ватовае і «на мяху», валёнкі, а тады ўжо яе вялі і знаёмілі з сядзеўшымі. Пасадзілі нарэшце на пачэсным месцы. Мамерт, Уршуля і Стаська ўслед перазнаёміліся з усімі і сталі ці селі, дзе каму спадабалася.

Гаспадар стаў пасярод хаты і голасна прагаварыў:

— Вельцэ і дроге госцікі! Болей ніхто не прыедзе да нас, будзем брацца за дзела! Сталы паставімы на сярэдзіне хаты. Пад'емы спочонтку, а потэм бэндзем забаўляцца!

Падняліся ўсе хлопцы, зашумелі, зарагаталі, загручэлі табурэтамі, зэдлікамі і сталамі. З кухні, з шафаў і скрынак гаспадыні (тры сястры Чуб-Цяпілішкі) насілі і насілі на сталы, накрытыя белымі абрусамі, усялякія прысмакі. Урэшце, усе госці прошаны былі садзіцца — пачалося частаванне.

Пілі гарэлку, ды закусвалі чым хто хацеў. А ўсяго было на стале: была тут вандліна ад колькіх галоў вандзоная, а такая цвёрдая, што трудна было адкроіць кавалак: не браў нож, не бралі і зубы, бо была, як падмётка... Яно і паказна і аканомна.

(Працяг на стар. 6)



 

# маладзее

іншых нацыянальных меншасцей і як палітыка гэтая не давала жаданых вынікаў.

Сонца ўжо схавалася за лесам, калі мы набліжаліся да Паўднёвага Вострава. Вёску ахутаў вячэрні змрок. У хатах пачалі запальвацца электрычныя лямпы. На вуліцы таксама заззялі агні.

Па твары майго сябра было відаць, што ён ахоплены незвычайнымі ўражаннямі. Ён чагосьці варушыўся, аглядаўся кругом, а пасля неяк дзіўна запытаў:

— Выбачайце, ці правільна мы едзем? Гэта Крынкі ці што?

— Не, гэта Паўднёвы Востраў.

Мы нічога не казалі аб нашых пераменах, нам цікава было паглядзець, як гэта ўсё ўспрыме наш госць.

Калі мы ўехалі на вуліцу, нашага сябра аж падносіла ад хвалявання — у кожнай хаце грала радыё.

— Значыць, Востраў і электрыфікаваны і радыёфікаваны. Нічога тут не пазнаю. Усё цяпер тут інакшае. Быццам, маладзее вёска...

Родныя, брат і сястра ўжо чакалі каля хаты дарагога госця, якога не бачылі 19 год. Тут жа, на вуліцы, пачаліся абдымкі, пацалункі, поціскі рук. Пацяклі слёзы радасці, слёзы любві да свайго роднага і каханага брата.

— А мама наша, — з плачам гаварыла сястра, — так і не дачакалася цябе. Перад смерцю ўспамінала, так цябе хацела бачыць.

Праз некалькі хвілін прыйшлі суседзі, сваякі і сябры прыехаўшага. Пачаліся цікавыя размовы, успаміны.

— А скажыце, як цяпер жывуць мае таварышы? — звярнуўся наш госць да прысутных і стаў называць іх прозвішчы.

— Яны жывуць у Беластоку. Маюць уласныя дамы. А дзеці іх вучацца ў сярэдніх школах, — пачуў ён у адказ.

— Ведаеш, Ваня, прыўзнятым голасам загаварыў вусаты яго швагер, — цяпер у нас зусім інакш. І газоўкі няма, і лапцей няма, і пастухоў, і жорнамі не мелюць, і зарабіць ёсць дзе, і цапамі менш малоцяць, а збожжа жнецца не сярпом, а жняяркаю і касою, ды сеяць збожжа пачынаюць сеўнікам, і нават тэлефон у нашай вёсцы цяпер ёсць.

— Як усё перамянілася, як моцна перамянілася, — захапляўся наш сябра. — Ах, каб мой тата ўстаў цяпер з магілы і ўбачыў усё гэта

Позна наш госць пайшоў спаць, бо тут і выпіўка, і спеў, і цікавасці, і жарт. Раніцаю майго сябра абудзіла машына, якая прыехала забіраць рабочых на працу ў Беласток.

І гэта яго моцна зацікавіла: калісьці ў Вострave не было дзе зарабіць, а цяпер завязуць на працу і назад прывязуць.

Надвячоркам нашаму госцю захацелася прайсціся з намі па вёсцы. Ішлі мы павольна, наш госць уважліва разглядаў будынкі, панадворкі і людзей. Звярнулі яго ўвагу шыльды Прэзідыума ГРН і вясковай крамы.

— Значыць, па запалкі і соль не трэба ехаць у Крынкі і гміну маеце ў сваёй вёсцы?

Раней у Востраве сяляне не мелі дзе збываць малака. І тое, што цяпер людзі нясуць прадаваць малако дзяржаве, і тое, што млечаром з'яўляецца Яська Путкаў, які забіты быў у мінулым нястачамі, а цяпер жыве ў новай прыгожай хаце, нашага госця асабліва ўзрушыла.

Спыніліся мы каля новай прыгожай школы. Наш госць заглядзеўся на будынак. Да нас далучыўся адзін з яго былых калег. Ён таксама дакінуў некалькі слоў аб пераменах у жыцці сялян.

— У нашай вёсцы цяпер, брат, 50 падпісчыкаў газет. Значыць культуры больш цяпер у нас, нават жэняцца, дык больш глядзяць на адукацыю, чым на багацце.

— А ці ты знаеш, што кожны год канчае 15—20 чалавек 7 класаў, што ёсць шмат выпускнікаў сярэдніх школ, а некалькі чалавек нават закончыла вышэйшыя ўстановы! Цяпер амаль у кожнай прафесіі знойдзеш чалавека з нашай вёскі.

— Ёсць з нашай вёскі інжынеры, тэхнікі, механікі, журналісты, настаўнікі, афіцэры, міліцыянеры,ураднікі, аграномы. А колькі працуе і жыве людзей у горадзе — дык ужо нават нялёгка палічыць.

— Мы, братуха, — цягнуў далей, нават царкву пабудавалі за народнай улады — а санацыя, як сам ведаеш, не давала дазволу.

— Цяпер жыць і не ўміраць, — радасна прагаварыў наш субяседнік. Толькі бяда, што мы ўжо старыя.

Наш госць уздыхнуў глыбока і лаканічна дадаў:

— Жыццё маладзее, і ў гэтым шчасце.

М. РАКІТА

*Рэцэнзія аб адной кнізе*

## Аб чым піша Жан Поль Сартр

Вельмі часта гаворыцца ў нас аб экзістэнцыялізме. Экзістэнцыялізм, проста сказаць, увайшоў у моду.

Побач таго замацаваліся яшчэ другарадныя, аднак не менш з гэтым звязаныя такія з'явы, як: жыццёвы песімізм, асаблівы стыль у мастацтве і маладыя барады, якія нібыта носяць французскія экзістэнцыялісты.

Сёння, пры дапамозе нашых выдавецтваў, можам пазнаць экзістэнцыялістаў з іх твораў.

Стваральнікам сучаснага экзістэнцыялізма з'яўляецца французскі філосаф і белетрыст Жан Поль Сартр. Нядаўна выдавецтвам «Чытэльнік» быў выданы зборнік апавяданняў пад загалоўкам «Мур».

Аб чым піша Сартр у сваіх апавяданнях? Аўтар перадае шмат перажыванняў чалавека прысуджанага на смерць, які знаходзіцца паміж такімі ж прыгаворанымі, як і сам. І вось перад самай смерцю герой дайшоў да вываду, што ўсё тое чым жыў дагэтуль, за што змагаўся, не мае ніякага сэнсу.

Усё, што яго акружае, яму здаецца смешным і абсурдным. Смешнай і абсурднай здаецца яму таксама павага, з якою падыходзяць да жыцця і тыя, што яго судзяць і тыя, што застаюцца на свабодзе: усе ж яны, хоць крыху пазней ад героя, таксама памруць. Герой адкідае ўсе чалавечыя вартасці.

Не хвалюе яго нават здрада прыяцеля.

Жыццё прыяцеля таксама, як і яго жыццё не мае найменшага значэння.

У іншых апавяданнях аўтар раскрывае нам свет сапсаваных людзей, варыятаў і г. д. Сваімі апавяданнямі аўтар быццам бы хацеў выказаць думку, што: у адносінах да абсурднасці правоў і вартасці, выдуманых людзьмі, унутраны свет гэтых людзей нічым не розніцца ад свету людзей маральных. Калі прачытаеш зборнік апавяданняў, паўстае пытанне, як паставіцца да закранутых Сартрам праблемаў.

Польскі пісьменнік Ст. Дыгат поўжартам адказаў на дзівацтвы экзістэнцыялізма: «жыццё надта кароткае, ды нашто ж яго яшчэ гідзіць».

Факт, што пытанні аб сэнсе існавання, аб асноўных інтарэсах існавання, нараджаюцца там, дзе творчую працу заступае бяздзейнае сузіранне.

Там, дзе жыве запал да працы, творчы энтузіязм, усё з'яўляецца зразумелым і такія пытанні зусім не існуюць.

УЛ. ПАУЛЮЧУК

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

Цяжка часам назваць дзень, месяц, калі чалавек зрабіў першыя крокі ў самастойнае жыццё, калі стаў дарослым. Пра Надзю Гаўрылюк— выпускніцу Бельскага Педагагічнага ліцэя — можна сказаць, што гэтыя першыя крокі яна зрабіла нядаўна ў сямігадовай школе ў Курашаве (Гайнаўскі павет).

Першыя дні ў школе — гэта дні, якія запомняцца Надзі на ўсё жыццё. Яна пераступала парог класа з вялікім хваляваннем, з няўпэўненасцю, з нейкай боязню. Уяўляла сабе, колькі нечаканасцей можа адбыцца ў яе навічка-настаўніка. Аднак старалася не паказаць сваю збянтэжанасць, сваё вялікае хваляванне.

— Праяві нервовасць, — гаварыла Надзя Гаўрылюк, — зрабі неасцярожную заўвагу вучню — і нармальны ход заняткаў будзе парушаны. А тут і актыўнасць трэба падтрымліваць, і зразумела, жыва тлумачыць урок. Яна ўвайшла ў клас і пачала весці ўрок беларускай мовы ўпэўнена, цікава. Імкнулася, каб правясці яго як найбольш паспяхова.

І ўжо на першых уроках Надзя Гаўрылюк адчула, якой цяжкай і складанай ёсць педагагічная праца.

«Калі ж я авалодаю гэтым майстэрствам, калі ж я буду весці ўрокі так, як мае настаўнікі з Педагагічнага ліцэя» — думала Надзя ўяўляючы сабе ўсю адказнасць настаўніцкай працы.

Надзя чуе добрае слова ад старэйшых настаўнікаў, адчувае апеку і дапамогу ўсяго настаўніцкага калектыву, яна ўпэўнена, што з першых дзён самастойнай працы ў школе ўвайшла ў дружную педагагічную сям'ю. І гэта ўзнімае яе настрой, улівае веру ў свае сілы, дапамагае адчуць радасць і прыгожасць працы. У добры час!

М. ХМЯЛЕУСКІ

## У Баброўніцкай школе



*Вучні пачатковай школы ў Баброўніках са сваімі настаўнікамі Мікалаем Бакалушыным і Галенай Кавалеўскай.*
*фота — а. а.*

Спорт

# ВЯСКОВЫ АСІЛАК

У аколіцы лічылі Васю Рубашэўскага асілкам. Цікава мне стала, што ён за чалавек? Я пастанавіў наведаць хутар ля Орлі, дзе жыве Вася. Васі не было дома.

Я пастанавіў чакаць на яго. Мне здавалася, што раптам я ўбачу высокага, рослага, плячыстага чалавека. І ў той жа момант перада мною вырас невялікі, шчуплы хлапчына.

— Вы, здаецца, да мяне? — ветліва спытаў. — Я Васіль Рубашэўскі — праказаў ён, падаючы руку. Маё здзіўленне перайшло ў крайнасць.

Якім чынам, гэты сухарлявы юнак — вясковы асілак? Не, не, гэта дык ужо не, — думкі супярэчылі факту.

Перш за ўсё, я спытаў Васю пра рост і вагу.

— Рост мой — 162 см., а важу 56 кілаграмаў — адказаў ён і міла ўсміхнуўся. Званне асілка прысвоіў сабе вельмі проста. З наймалодшых гадоў ён скакаў, бегаў на выперадкі з вясковымі хлопцамі. Пасля пайшоў у школу. Тут знайшоў сабе такога ж самага, які і сам, аматара спорту Сымона Русіновіча з Орлі. Разам з ім практыкаваліся на трапецыі, трэніравалі бег, самі зрабілі штанг — кожную вольную хвіліну выкарыстоўвалі на трэніроўкі.

Неўзабаве Русіновіч вылучыўся на першае месца, з поспехам перайшоў да агульнапольскай каманды штангістаў. Рубашэўскі быў пакліканы на вайсковую службу. Адслужыўшы і вярнуўшыся дамоў запісаўся ў ЛЗС і распачаў сістэматычна трэніравацца. У сакавіку 1958 г. прыняў удзел у спаборніцтвах вясковых штангістаў у Беластоку. Калі Рубашэўскі выйшаў на сцэну, не разбудзіў зацікаўлення. І толькі тады, калі гэты невялікі, хударлявы хлопец падняў 111 разоў 30-кілаграмовую гіру (іншыя падымалі 90 разоў), спартзала запоўнілася хваляй апладысментаў і ўзрыўчатым гулам публічнасці. Рубашэўскаму прысвоена званне чэмпіёна ваяводства. Пасля таго паехаў на цэнтральныя спаборніцтва ў Варшаву, дзе вылучыўся на трэцяе месца.

У пакоі на сценах вісяць дыпломы, якія падбадзёрваюць Васю Рубашэўскага, натхняюць яго да далейшай працы. Ён сарганізаваў у Орлі 12-ціасабовую каманду штангістаў, якая адрамантавала сабе залу, зрабіла памост, атрымала сапраўдны штанг і паясы для заняткаў. Рубашэўскі прайшоў адпаведны курс, а зараз праводзіць заняткі з хлопцамі і сам трэніруецца. У сучасны момант падрыхтоўваецца да новых спаборніцтваў, здабываць новыя званні і дыпломы.



*Вася Рубашэўскі на трэніроўцы.*

Тэкст і фота — А. А.

